Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 19 Год выдання 1-ы 30 чэрвеня 1935 г. № 19

## Усю ўвагу гандлюючых арганізацый усенароднаму святу

Дзень 15-й гадавіны аслабанення Беларусі ад белапалякаў і ўручэння ордэна ЛЕНІНА БССР і яе кіраўнікам—т. т. ГІКАЛО і ГАЛАДЗЕДУ—усенароднае свята і дзень радасці не толькі для працоўных БССР, але і ўсяго Совецкага Саюза.

У гэты дзень працоўныя падвядуць ітогі перамогшай Ленінска-Сталінскай нацыянальнай палітыкі, якая ператварыла адсталую „лапатную" Беларусь у перадавую, ордэнаносную і квітнеючую рэспубліку буйных соцыялістычных фабрык і заводаў, калгасаў і соўгасаў.

Падрыхтоўка да правядзення гэтага ўсенароднага свята накладвае выключна адказныя задачы і на гандлюючыя арганізацыі.

Работа гандлёвай сеткі ў перадсвятачныя дні павінна быць арганізавана такім чынам, каб поўнасцю задаволіць запросы працоўных, асабліва ў частцы тавараў летняга асартымента.

Для абслугоўвання дэманстрацый і масавых гульняў у святочныя дні неабходна найбольш мэтазгодна скарыстаць наяўную гандлёвую сетку. Усе гандлюючыя арганізацыі, не выключаючы ОРС'аў і ЗРК, павінны праявіць максімум ініцыятывы ў справе арганізацыі развознага і разноснага гандля.

Асаблівая ўвага павінна быць звернута на тое, каб у дні свята ў максімальнай меры абслужыць працоўных марожаным і прахладжальнымі напіткамі.

Увесь гандаль у святочныя дні неабходна пабудаваць на прынцыпах культурнага абслугоўвання працоўных.

Выключнае значэнне ў рэалізацыі мерапрыемстваў па правядзенню ўсенароднага свята па лініі гандлю набываюць міжраённыя кірмашы ў Менску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску і Магілёва, арганізуемыя ў перыяд 1—5 ліпеня і прысвечаныя гэтаму святу. Гандлюючыя арганізацыі павінны на гэтых кірмашах спалучаць шырокую масава-палітычную работу сярод калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў з арганізацыяй шырокага патока ирам. і прадтавараў на базары.

І, нарэшце, перад гандлюючымі арганізацыямі пастаўлена адказнейшая задача ва што быто ні стала выканаць на працягу першай паловы ліпеня не менш 20 проц. квартальнага плана таваразварота шляхам максімальнага скарыстання ўсіх рэзерваў.

Выкананне гэтых выключна важных палітычна-гаспадарчых задач з'яўляецца справай гонару ўсіх работнікаў гандлёвага апарата.

## Рашучым чынам выкараніць злоужыванні ў гандлі прахладжальнымі напіткамі

Праведзеная НКУнутгандлем БССР праверка становішча гандлю прахладжальнымі напіткамі па Менску паказала, што гэты вучастак гандлю ў вялікай ступені засмечан спекуляцыйным і жульніцкім элементам, які гандаль прахладжальнымі напіткамі ператварыў у сродак асабістай нажывы і абмана працоўных горада.

Пры гэтым праверкай устаноўлена, што абманам спажыўца працягвае займацца пэўная група работнікаў, якая ўжо ў мінулым прыцягвалася да адказнасці за падобныя злоўжыванні (ФІШЭР Бася—ларок № 3 арцелі „Победа", ФУРМАН—ларок завода „Беларусь", ЧЭРЧЭС Берта—магазін Менхарчгандля № 27 і т. д.).

Зусім нецярпімымі з'яўляюцца благадушныя адносіны да гэтай справы з боку кіраўнікоў гандлёвых арганізацый г. Менска (Менгорспажыўсаюз—т. КРЭЙНІН, Менхарчгандаль—т. РЫСЬ, 7-я арцель інвалідаў т. СЛАБОЦІН і інш.), не праявіўшых неабходнай пільнасці пры арганізацыі гандлю напіткамі і падборы людзей для гэтага віда гандлю.

У гэтай сувязі неабходна адзначыць тыя спекуляцыйна-нэпманскія метады гандлю, якія характарызуюць работу паасобных звенняў гандлёвага

апарата. Кіраўніцтва буфетамі Менхарчгандаля ў у асобе т. ГЕХТА, замест бальшэвіцкай барацьбы з фактамі недаліва і парушэння цэн у сістэме гандлю прахладжальнымі напіткамі—сваёй „ўласнай палітыкай цэн" прама садзейнічала гэтым грубейшым скажэнням прынцыпаў совецкага гандля.

Замест вафлі марожанага ўмяшчальнасцю ў 100 грам, у продаж выпускаліся вафлі ўмяшчальнасцю у 85 грам, замест 38 кап. за шклянку марожанага ўмяшчальнасцю ў 50 грам, устаноўлена цана 50 кап.

Зусім нездавальняючае кіраўніцтва гандлем прахладжальнымі напіткамі сказалася не толькі ў дрэнным падборы кадраў, але і ў выключна дрэннай арганізацыі гандлю.

У большасці магазінаў і ларкоў работнікі зусім не ведаюць правіл гандлю прахладжальнымі напіткамі, прэйскуранты цэн і ўказацелі правільнасці наліва піва і кваса не вывешаны і т. д.

Зусім не дапушчальнай з'яўляецца практыка карыстання куфлямі з адломанымі краямі, якая, паміма недаліва, выклікае прамую небяспеку ранення спажыўца.

І, нарэшце, зусім недапушчальным з'яўляецца санітарнае становішча сеткі па продажу прахладжальных напіткаў. Маючыяся ў крамах шпрыцы прыстасаваны толькі для абмыўкі ўнутраных сценак куфля, знадворны-ж бок куфля зусім не абмываецца. Банкі для хавання вады іржавыя і забруджаныя, а прадаўцы карыстаюцца бруднымі халатамі.

Не малая доля віны за такое зусім недапушчальнае становішча гандлёвай сеці кладзецца і на органы санітарнай інспекцыі.

Наркамунутгандаль БССР, побач з прыцягненнем да суровай адказнасці жулікаў і тых асоб, якія ў тэй ці іншай форме ім дапамагалі ў сваёй злачыннай рабоце,—намеціў у сваёй пастанове рад канкрэтных мерапрыемстваў па ўпарадкаванню гандлю прахладжальнымі напіткамі (скліканне спецыяльнай нарады работнікаў гандлёвай сеткі, выдзяленне ў апараце ўсіх гандлюючых сістэм спецыяльных асоб для штодзённага кантроля за гандлем прахладжальнымі напіткамі, і з'яцце з карыстання ўсіх паломаных куфляў і непрыгодных шпрыцаў і т. д.).

Рэалізацыя гэтай пастановы становіцца важнейшай задачай не толькі кіраўнікоў гандлюючых арганізацый г. Менска і ўсіх астатніх гарадоў і раёнаў БССР, але-ж і ўсёй гандлёвай грамадскасці.

## У Канвенцыйным Бюро пры Наркамунутгандлі БССР

На пасяджэнні Канвенцыйнага Бюро ад 8 чэрвеня ўстаноўлены аптова-адпускныя цэны франко-вытворчасць на наступную прадукцыю:

### 1. Па Віцебскай швейнай арцелі сістэмы Промкаапэрацыі:

Дзіцячая сукенка сітцавая камбініраваная, з лоскута, без рукавоў, з крылышкамі, размерам 26—28—1 р. 90 к.

Дзіцячая сукенка не камбініраваная сітцавая размер 26-28—2 р. 40 к.

Арцелі прапанавана вырабляць розныя размеры дзіцячых сукенак 24-26—2 р. 25 к., 32—2 р. 55 к. для не камбініраваных сукенак, а для камбініраваных размер 24-26—1 р. 75 к., 32—2 р. 05 к.

Дамскія блузы без рукавоў сітцавыя размер 48-50 адкрытыя з адкладным каўнерам (шалью, з гальштукам)—2 р. 80 к.

Кофтачкі ніжнія дзіцячыя фланелевыя размер 28-30 з доўгімі рукавамі. Арцелі прапанавана палепшыць крой кофтачкі згодна стандарта і размера 28-30. Аптова-адпускная цана ўстаноўлена ў размеры 3 р.

Распашонка дзіцячая фланелевая з кароткімі рукавамі—2 р. 07 к.

Фартук дзіцячы сітцавы—1 р. 50 к. Арцелі прапанавана змяніць фасон фартука і замест прадстаўленага ўзора выпускаць фартукі дзіцячыя выключна са шлейкамі.

Кепі сітцавыя: пры палепшанні якасці работы, Канвенцбюро устанавіла цану ў 4 р. 35 к. з умовай, каб падкладка абавязкова была аднастайная і светлых колераў.

Навалачка з баваўняна-папяровай саматужнай тканіны размерам 60 × 60 на гузіках—4 р.

Світры мужчынскія з віскозы—17 р. штука. Арцелі прапанавана палепшыць апрацоўку каўнера світра.

Наскі жаночыя белыя з разнакаляровай каймой—19 р. 50 к. дзесятак. Арцелі прапанавана палепшыць апрацоўку наска, асабліва звярнуць увагу на шоў.

Матрац цюфячны, размер 220 × 80—15 р. 50 к.

### Па Менскай арцелі імя Крупскай:

Наскі мужчынскія —23 р. 50 к. за двесятак рысунчатых. Па рашэнню Канвенцбюро гладкія наскі зняты з вытворчасці.

### Па Віцебскай арцелі „Каапабутак":

Спартыўкі ўцільныя—5 р. 45 к. Арцелі прапанавана палепшыць якасць спартыўкі шляхам вырэзкі жэлобка ў падэшве і скрыцця ў жэлабку ніткі, размер 34-38 уключна на гумавай падэшве.

Сандаліі мужчынскія з чорнага гралікса на гумавай падэшве на аднэй металічнай пражцы—размер 39—42—8 руб.

Сандаліі дамскія, размер 34 і 39 з чорнага гралікса 1-га гатунка на гумавай падэшве—6 р. 80 к.

* * *

У звязку з дрэннай якасцю прадстаўленага ўзора чэмаданаў, вырабляемых Менскім камбінатам таварыства глуханямых, цэны на гэты тавар рашана не ўстанаўліваць. Камбінату прапанавана прадставіць палепшаны узор чэмадана, пасля чаго Канвенбюро будзе абмяркоўваць пытанне аб цане.

Канвенцбюро забараніла падсобным майстэрням таварыства сляпых выпрацоўваць балеткі у звязку з дрэннай якасцю і высокімі цэнамі.

Майстэрням прапанавана наяўную сіравіну скарыстаць на выраб іншых відаў тавараў.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Актыўна рыхтавацца да ўсенароднага свята БССР

### Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

17 чэрвеня 1935 г. **№ 307.** г. Менск.

1. Для лепшай падрыхтоўкі абслугоўвання ўсенароднага свята 15-цігоддзя вызвалення БССР ад белапалякаў і ўручэння БССР ордэна Леніна—арганізаваць пры Наркамунутгандлі рэспубліканскую камісію па кіраўніцтву ўсёй падрыхтоўчай работай па абслугоўванню свята ў складзе т. т. ГУРЭВІЧА (старшыня), ВЕРБА, ШАБОЛТАСА, ЗАХАРАВАЙ, МАНЖАЛЕЯ, ЦІМЕНКА і БЕРХІНА.

2. Для гэтай-жа мэты арганізаваць у 11-ці гарадох тройкі пад старшынствам Гор. унутгандля, старшыні ЦРК і дырэктара канторы Белхарчгандля. У астатніх раёнах абавязкі па правядзенню усёй падрыхтоўчай работы ўскласці на Райгандлі.

3. Прапанаваць гарадскім камісіям, па астатніх раёнах Райгандлям неадкладна выпрацаваць канкрэтныя планы неабходных мерапрыемстваў па абслугоўванню свята. У аснову плана палажыць наступныя задачы:

а) поўнае забеспячэнне і насычанасць сеткі ў прадсвятачныя і святочныя дні таварамі, асабліва сеткі, гандлюючай водамі, марожаным, кандзіцерскімі вырабамі, халоднымі закускамі, а таксама рэстаранаў, сталовых і інш.;

б) разглядзець і ўстанавіць адпаведны асартымент вырабляемай і выпускаемай у гандаль прадукцыі ў прадсвятачныя і святочныя дні, прымаючы ўсе меры да здавальнення ўзрастаючага на гэтыя дні попыта працоўнага насельніцтва;

в) упрыгожанне магазінаў, вітрын, прывядзенне іх у святочны выгляд, недапускаючы ніякіх непатрэбных выдаткаў;

г) канкрэтны план і тэхніка абслугоўвання свят і дэманстрацый (расстаноўка разноснага і развознага гандля, гандаль на аўтамашынах, буфеты-трамваі і інш,);

д) мабілізацыя ўсіх работнікаў гандлёвага апарата на барацьбу за лепшае выкананне гандльфінпланаў, паказ лепшых ударнікаў, энтузіастаў, аўладаўшых тэхнікай совецкага гандля, барацьба за вырашчванне людзей—кадраў;

е) як практычная задача—дабівацца вакананния ў першай палове ліпеня не менш 20 проц. квартальнага плана таваразварота;

ж) ва ўсёй масава-растлумачальнай рабоце сярод работнікаў прылаўка і ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце камісіі на мясцох, неабходна выходзіць з задач падцягвання совецкага гандля на ўзровень тэмпаў і якасці работы перадавых галін работы нашай ордэнаноснай рэспублікі—прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

4. Даручыць т. т. ВЕРБА, ШАБОЛТАСУ і БЕРХІНУ прапрацаваць план работы рэспубліканскай камісіі і прадставіць на разгляд апошняй.

У плане прадугледзіць парадак заслухоўвання ў планавым парадку да 1 ліпеня г. г. планаў і намечаных арганізацыйных мерапрыемстваў гарадскімі камісіямі і Горунутгандлямі асноўных раёнаў, асабліва прымежных, з такім разлікам, каб Менскую камісію заслухаць, аб намечаных папярэдніх мерапрыемствах, не пазней 20—22 чэрвеня 1935 г.

Народны Камісар Унутранага Гандля
БССР **Н. Гурэвіч.**

---

## Арганізаваць узорнае абслугоўванне ўборачнай кампаніі

### Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

9 чэрвеня 1935 г. **№ 286-б** г. Менск.

У мэтах арганізацыі абслугоўвання ўборачнай кампаніі Наркамунутгандаль БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць загадчыкаў Гор. райунутгандляў неадкладна прыступіць да распрацоўкі плана абслугоўвання ўборачнай кампаніі, прадугледзіўшы:

а) арганізацыю па кожнаму Райспажыўсаюзу не менш 2-3 развозак, па дзяржгандлю—1 развозка і па кожнаму сельпо не менш 3-х разносак непасрэдна на поле;

б) гандаль крам сельпо не пазней чым за 2 гадзіны да пачатку выхаду калгаснікаў у поле, у час абедзенага перапынка і не менш двух гадзін па сканчэнні дзённых палявых работ;

в) асартымент тавараў па абслугоўванню калгаснікаў, уключаючы як спажывецкія тавары, так і дробны сельска-гаспадарчы інвентар і ў тых месцах, дзе гэта магчыма, арганізаваць продаж прахаладжальных напіткаў (газіраваная вада, квасы і інш.)

Т. т. КІСЛІКУ і МАНЕВІЧУ разглядзець і прадставіць на зацверджанне не пазней 13 чэрвеня асартымент тавараў для абслуговання ўборачнай кампаніі.

2. Папярэдзіць усіх загадчыкаў Горрайунутгандляў аб іх персанальнай адказнасці за арганізацыю абслуговання ўборачнай кампаніі.

Абавязаць загадчыкаў Горрайунутгандляў інфармаваць Наркамунутгандаль кожную дэкаду, з пачатку ўборачных работ, аб ходзе абслуговання калгаснікаў.

Кантрэктны план абслуговання ўборачнай, загадчыкам Горрайунутгандляў прадствіць на зацверджанне Прэзідыума РВК, Гарсовета і даслаць у Наркамунутгандаль не пазней 20 чэрвеня.

Нам. Наркома Унутранага Гандля
БССР **І. Верба**

# Да адказнасці за злоўжыванні ў гандлі прахладжальнымі напіткамі

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

20 чэрвеня 1935 г. **№ 314** г. Менск

Праведзеным рэйдам—праверкай гандлю прахладжальнымі напіткамі і марожаным па г. Менску, арганізаванай Наркамунутгандлем, выяўлена:

1. **Па Менхарчгандлю:** у ларку № 11 прадаўшчыца ХАНЕНЧЫК Рыва недаліла піва ў куфель 50 к/см., а заг. ларка КАСОЎСКІ Мордух недадаў здачы 1 кап. пры разліку за піва.

У магазіне № 27 прадаўшчыца ЧЭРЧЫС Берта недаліла піва ў куфлі 55 к/см. Піва прадавалася ў вышчэрбленым на 2 *см.* куфлі.

У ларку № 15 прадаўшчыца СІМОНЧЫК праводзіла продаж мутнага і забруджанага піва.

2. **Па сетцы завода „Беларусь":** у ларку № 30 прадаўшчыца ФУРМАН Муся недаліла піва 25 *к/см.*, ларок утрымліваецца ў антысанітарным становішчы.

У ларку № 35 прадаўшчыца АРЭХМАН Двейра недаліла ў двух куфлях па 30 *к/см.*

3. **Па сетцы 7-й арцелі інвалідаў:** у ларку № 15 прадавец МУРОХ Гірш недаліў піва 50 *к/см.*

У ларку пры кіно „Інтэрнацыянал" прадавец ШЭВЕС Тэвель недаліў піва 50 *к/см.*, груба адносіўся да пакупнікоў.

4. **Па сетцы Менгорспажыўсаюза:** у магазіне ЗРК завода „Молатава" заг. магазіна ВАЙНШТЭЙН недаліла піва на 50 *к/см.*

У ларку № 2 прадаўшчыца ВАЙНШТЭЙН Сіма недаліла піва 4 *к/см.*, сіроп наліваецца на глаз без нормы. Ларок утрымліваецца ў антысанітарным становішчы.

У ларку ЗРК завода „Комунар" па Савецкай № 72 прадаўшчыца ХЕЙФЕЦ недаліла піва ў двух куфлях па 25 *к/см.*

5. **Па сетцы Сампромарцелі „Победа":** у ларку № 3 прадаўшчыца ФІШЭР Бася недаліла 15 *к/см.* вады з сіропам.

У ларку № 4 прэйскурант цэн на ваду з сіропам устаноўлен 15 кап. замест 13 кап. за куфель 0,25 літра.

6. У ларку ЗСК Камвуза прадаўшчыца УЛЬЯСАВА недаліла вады з сіропам 15 *к/см.*

7. Продаж марожанага ў ларках Менхарчгандля праводзіўся ў вафлях замест 100 грам—85 грам, у вафлях замест 50 грам—44 грама, акрамя вафель ларкі Менхарчгандля праводзілі продаж марожанага у шклянках (румках) вагай 50 грам за 50 кап., замест сапраўдна ўстаноўленай цаны ў 38 кап. У шкляной чашцы (салянцы) 44 грама за 38 кап. замест устаноўленай цаны 33 кап. Шклянкі, у якіх адпускаецца марожанае не мыюцца гарачай вадой.

8. У радзе ларкоў і магазінаў усёй гандлёвай сеці карыстаюцца куфлямі з вышчарбленымі і расколатымі краямі, шпрыцы для абмыўкі куфлей у большасці ларкоў толькі ўнутранай абмыўкі. Ручнікі і халаты брудныя. Адсутнічаюць вывешаныя таблічкі з паказаннем прозвішчаў прадаўца. Прэйскуранты цэн не вывешаны на відных месцах, а таксама сістэматычна не выдаецца здача пакупнікам па 1—2 кап.

Выходзячы з гэтага Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР **пастанаўляе:**

1. Прапанаваць Менхарчгандлю т. РЫСЮ зняць з работы і аддаць пад суд за недаліў піва прадаўшчыцу магазіна № 27 ЧЭРЧЭС Берту і накласці спагнанне на загадчыка магазіна ЛАМАНОСАВА за допушчэнне абмервання ў магазіне.

Прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці загадчыка ларка № 11 КАСОЎСКАГА за недадачу здачы пры разліку за піва і зняць з работы прадаўшчыцу ларка ХАНЕНЧЫК Рыву за недаліў піва.

Даручыць т. ЦІМЕНКО выявіць канкрэтных вінаўных у ўстанаўленні павышаных цэн у ларках Менхарчгандля на марожанае і зменшаных вафельных мерак на 15 грам у 100 грам. вафлі і на 6 грам у 50 грам. вафлі і прыцягнуць іх да суровай адказнасці, аж да зняцця з работы і аддачы пад суд.

2. Прапанаваць т. КРЭЙНІНУ накласці спагнанне на загадчыка ларка № 2 ВАЙНШТЭЙНА, на прадаўшчыцу магазіна ЗРК завода „Молатава" ВАЙНШТЭЙН і загадчыка ларка ЗРК „Комунар" ХЕЙФЕЦ за абмерванне спажыўцоў пры наліву піва і вады і антысанітарнае становішча.

3. Прапанаваць старшыні арцелі „Победа" зняць з работы прадаўшчыцу ларка № 3 ФІШЭР Басю і справу аб абмерванні перадаць суду.

4. Прапанаваць дырэкцыі завода „Беларусь" накласці спагнанне на загадчыка ларка № 35 АРЭХМАН Двейру і зняць з работы загадчыка ларка № 30 ФУРМАН Мусю за абмерванне і прасіць партарганізацыю завода „Беларусь" разглядзець справу апошняй у партыйным парадку.

5. Абавязаць старшыню 7-й арцелі інвалідаў прыцягнуць да адказнасці загадчыка ларка № 15 МУРОХ Гірша і загадчыка буфетам кіно—„Інтэрнацыянал" ШЭВЕС Тэвеля.

6. Абавязаць Менскі Горунутгандаль т. САФЬЯНА правесці да 23/VI—нараду ўсіх прадаўцоў, гандлюючых прахладжальнымі напіткамі, на якой абгаварыць вынікі праверкі і правілы гандлю прахладжальнымі напіткамі.

Расследаваць справу аб павышэнні прэйскуранта цэн арцелью „Победа" на газіраваную ваду з сіропам і вінаватых у павышэнні прыцягнуць да адказнасці.

7. Абавязаць усе гандлюючыя арганізацыі на працягу 2-х дзён:

а) забяспечыць кожнага прадаўца правіламі гандля прахладжальнымі напіткамі;

б) із'яць з карыстання ў сетцы ўсе непрыгодныя вышчэрбленыя куфлі, замяніўшы іх цэлымі стандартнымі куфлямі;

в) вывесіць у кожным ларку ўказацель наліва піва і квасу і прэйскурант розьнічных цэн;

г) із'яць шпрыцы для абмыўкі куфлей знутры, замяніўшы іх шпрыцамі ўнутранай і знадворнай абмыўкі;

д) у кожным ларку вывесіць дошчачку з надпісам прозвішча прадаўца;

е) усе ларкі забяспечыць кнігамі скаргаў.

Для штодзённага кантроля гандлю прахладжальнымі напіткамі і дапамогі прадаўцам, прапанаваць Менхарчгандлю, Горспажыўсаюзу і заводу „Беларусь“ вылучыць з апарата па аднаму работніку—кантралёру.

8. Папярэдзіць кіраўнікоў усіх арганізацый, якія гандлююць водамі і марожаным, што калі з іх боку у бліжэйшыя дні не будзе створана перелома ў ажыццяўленні сапраўднага культурнага гандля прахладжальнымі напіткамі, Наркамунутгандаль будзе вымушан прыняць суровыя меры.

9. Даручыць т. САФЬЯНУ ў дэкадны тэрмін праверыць выкананне гэтай пастановы гандлюючымі арганізацыямі і далажыць Наркамунутгандлю, прыняўшы аперацыйныя меры да забеспячэння рэгулярнага завоза вод у сетку.

10. Даручыць усім Горунутгандлем на аснове азначаных фактаў праверыць становішча гандлю прахладжальнымі напіткамі і вынікі праверкі далажыць Наркамунутгандлю.

11. Прасіць пракурора г. Менска т. ГІНЗБУРГА справы па абмерванню і парушэнню цэн расследваць і перадаць суду ў тэрміновым парадку.

Нарком Унутранага
Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

---

# Аб выніках праверкі работы камісійных магазінаў

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР.

11 чэрвеня 1935 г. **№ 292.** г. Менск.

Лічыць устаноўленым па матэрыялах Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі, што камісійныя магазіны дапусцілі ў сваёй дзейнасці грубейшае скажэнне савецкага гандля і сталі на справе месцам для садзейнічання спекулянтам і саматужнікам, даўшы ім магчымасць скрыцца ад абкладання дзяржпадаткам і т. д.

Магазіны ў Менску і Віцебску, сістэматычна браўшыя на камісію тавары ад спекулянтаў і саматужнікаў (абутак, пальто, гадзіннікі, шапачкі) не паведамлялі фінансавым і іншым органам аб гэтых спекуляцыйных элементах.

Кіраўніцтва камісійнымі магазінамі з боку Менскага Горспажыўсаюза, Віцебскага і Аршанскага ЦРК адсутнічае і камісійныя магазіны былі прадстаўлены самі сабе, у выніку чаго ёсць грубейшыя парушэнні ва ўсіх галінах дзейнасці: няправільнае спагнанне ўзнагароды за хаванне рэчаў камітэнтаў, устанаўленне самавольных цэн на прымаемыя на камісію тавары, прыём на камісію тавараў ад гандлюючых арганізацый (Менскі магазін), здача работнікамі камісійных магазінаў сваіх уласных тавараў без афармлення па накладных (Аршанскі магазін), дрэннае афармленне прыёма камісійных тавараў, не ўказанне прозвішчаў і адрасоў камітэнтаў і т. д.

Выходзячы з паказанага Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Даручыць старшыні Белкаапсаюза т. БАСКІНУ:

а) за садзейнічанне спекулянтам і саматужнікам у вытварэнні спекуляцыйных спраў і сістэматычны прыём ад іх тавараў—зняць з работы загадчыка Віцебскім камісійным магазінам МІРЛІСА і аддаць яго пад суд. Зняць з работы загадчыка Аршанскага камісійнага магазіна т. БЕНЯЎСКАГА за злоўжыванні (здача ўласных тавараў у магазін, прыём ад знаёмых тавараў без афармлення па дакументах магазіна).

У адносінах загадчыцы Менскага камісійнага магазіна БЫКАВАЙ—як вылучэнкі—абмежавацца зняццем яе з работы за прыём на камісію тавараў ад саматужнікаў і спекулянтаў;

б) налажыць спагнанне на кіраўнікоў Менскага Горспажыўсаюза, Віцебскага і Аршанскага ЦРК за адсутнасць з іх боку кіраўніцтва і кантроля над камісійнымі магазінамі.

2. Прапанаваць Белкаапсаюзу, Менскаму Горспажыўсаюзу Аршанскаму і Віцебскаму ЦРК і іншым арганізацыям, маючым камісійныя магазіны, поўнасцю ажыццявіць пастанову Наркамунутгандля СССР № 240 ад 11 красавіка 1935 г. і палажэнне аб камісійных магазінах.

3. Даручыць Горунутгандлям Віцебска, Оршы, Менска і Бабруйска, Упаўнаважанаму Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры Наркамунутгандлі СССР па БССР т. ТАЛКАЧОВУ на працягу бліжэйшых 2—3 месяцаў праверыць работу ўсіх камісійных магазінаў ў адпаведнасці з пастановай Наркамунутгандля СССР і палажэннем аб рабоце камісійных магазінаў.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

---

# Аб цэнах на сельгаспрадукцыю дэцэнтралізаваных загатовак

## Усім Райупаўнаважаным камітэта загатовак пры СНК, Райканвенцбюро, усім гарадскім і райунутгандлям.

Упаўнаважаны Камітэта Загатовак СНК СССР па БССР і Наркамунутгандаль БССР гэтым растлумачваюць, што ўстанаўліваемыя загатоўчыя і збытавыя розничныя цэны на ўсе віды незбожжавай сельскагаспадарчай прадукцыі Белканвенцыямі Упаўкамзага і Наркамунутгандля з'яўляюцца гранічнымі, павышэнне якіх катэгарычна забараняецца.

Адначасова з гэтым абавязваем Вас, з удзелам загатоўчых і гандлюючых арганізацый, на аснове вывучэння кан'юнктуры рынка на месцы, устанаўліваць, у выпадках неабходнасці, загатоўчыя і розничныя цэны ніжэй устаноўленых намі цэн, з такім разлікам каб загатоўчыя і розничныя цэны ні ў якім выпадку не перавышалі і не былі роўны цэнам

рыначным. Кожнае ваша рашэнне аб змяненні цэн неадкладна дасылайце Белканвенцыям Упаўкамзага і Наркамунутгандля.

Асабліва падкрэсліваем неабходнасць дакладнага наглядання і гібкасці ў частцы ранняй і позняй гароднiны, фруктаў, дзікарастучых і т. п.

Яшчэ раз, завастраючы вашу ўвагу на неабходнасць гібкага і аперацыйнага кіраўніцтва палітыкай цэн, падкрэсліваем, што надаючы вам права зніжаць устаноўленыя намі цэны для вашых раёнаў катэгарычна забараняем павялічваць цэны.

Упаўкамзаг СНК СССР па БССР **С. Гваздзецкі**

Нам. Наркамунутгандля БССР **І. Верба**

## Аб будаўніцтве гандлёвых памяшканняў

### Загад па Наркамунутгандлю БССР

5 чэрвеня 1935 г. **№ 199** г. Менск.

Праведзенай Упаўнаважаным Камісіі Савецкага Кантроля па БССР праверкай выканання пастановы СНК СССР ад 4/XII 33 г. „Аб абавязковым будаўніцтве гандлёвых памяшканняў у новых дамах“— устаноўлены грубейшыя парушэнні гэтай пастановы будаўнічымі арганізацыямі. Адсутнічае кантроль з боку органаў Наркамунутгандля за выкананнем гэтай пастановы.

Гэтыя парушэнні выразіліся ў тым, што частка будаўнічых арганізацый (пабудова Лесбела, міліцыі і інш.) зусім не адвяла памяшканняў пад магазіны. Па іншых арганізацыях адведзеныя памяшканні не адпавядаюць пастанове СНК СССР (пры пабудове звыш 2-х паверхавых памяшканняў—адведзена нязначная частка першага паверха замест усяго першага паверха).

Загадваю:

1. Гор. Райунутгандлям неадклана праверыць як выконваецца пастанова СНК СССР ад 4 снежня 1933 г. У выпадку выяўлення парушэння гэтай пастановы— паставіць пытанне перад прэзідыумам РВК, Гарсовета аб прыцягнені вінаватых да адказнасці і выпраўленні дапушчаных парушэнняў.
2. Увесь матэрыял праверкі выканання пастановы СНК СССР пад асабістую адказнасць загадчыкаў Гор. Райунутгандляў не пазней 15 чэрвеня накіраваць у Наркамунутгандаль.

Нам. Наркома Унутранага Гандля БССР **І. ВЕРБА**

# ЦЭНЫ

## Новыя рознічныя цэны на муку

### РАСПАРАДЖЭННЕ

### Па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

20 чэрвеня 1935 г. **№ 474** г. Менск

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 12464 прапаную:

Панізіць з 21 чэрвеня 1935 рознічную цану на муку ржаную простага памолу, а таксама абойную 95 проц. памола—на 40 кап. кгр.;

На пшанічную 96 проц. памола—на 35 кап. кгр.

На пшанічную 85 проц. памола, а таксама II-і гатунак 2-х гатунковай 45 проц. памола—на 60 кап. кгр.;

На пшанічную 75 проц. памола на 80 кап. кгр.;

На пшанічную 30 проц. памола—на 1 р. кгр.

Адпускныя цэны на муку застаюцца без змены.

Зняцце астаткаў у гандлёвай сеці і прадпрыемствах грамадскага харчавання правесці на аснове актаў з 20 на 21 чэрвеня 1935 г., завераных па дзяржгандлю—загадчыкам магазіна і прадстаўніком гандлюючай арганізацыі, па спажывецкай каапераціі—загадчыкам магазіна і членам рэвкамісіі сельпо, ЗРК, ЦРК, па ОРС'ам—загадчыкам магазіна і прадстаўніком рабочага кантроля, па сталовым—загадчыкам сталовай і прадстаўніком рабочага кантроля.

Розніцу ад пераацэнкі аднесці за рахунак дзяржбюджэта.

Гандлюючым арганізацыям неадкладна давесці зніжэнне цэн да гандлёвай сеці.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР Н. Гурэвіч.

## Аб продажнай цане дражжэй у расфасоўцы

### Горрайунутгандлям і гандлюючым арганізацыям.

Пастановай СНК (пратакол № 12 п. 76) устаноўлена аптова-адпускная цана на дрожжы пекарскія, у расфасоўцы па 100 грам у пачцы—1600 руб. за тону франко-станцыя адпраўлення.

Улічваючы, што пры продажу расфасованых дражжэй накладныя выдаткі змяншаюцца ў параўнанні з прадажай развесных, нерасфасаваных дражжэй,— Наркамунутгандль БССР лічыць магчымым рознічную прадажную цану заставіць на адным узроўні з нерасфасованымі развеснымі дражжамі без павышэння.

Нач. аддзела арганізацыі гандл. сеці і рэгулявання цэн НКУГ БССР **Каменецкі**

## Размер гандлёвай скідкі на махорку

### Гор. райунутгандлям, гандлюючым арганізацыям і канторы „Саюзтабакгандаль“.

Часова да канчатковага зацвярджання ўстаноўлёна гандлёвая скідка на курыцельную махорку ў карысць гандлюючых арганізацый у размеры 4 проц. з рознічнай цаны, уключаючы ў устаноўлены процант скідку базам Табакгандля ў размеры 0,3 проц. з рознічнай цаны.

Устаноўленая скідка распаўсюджваецца на рахункі, выпісаныя з 3-га мая 1935 года.

Нач. аддзела арганізацыі гандлёвай сеці і рэгулявання цэн Наркамунутгандля БССР **Каменецкі**

# Аптова-адпускныя і рознічныя цэны на безалкагольныя прахладжальныя напіткі

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

9 чэрвеня 1935 г. — **№ 284** — г. Менск.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Зацвердзіць аптова-адпускную і рознічную цану на прахладжальныя безалкагольныя напіткі, выпрацоўваемыя арцелямі Белхарчпромсаюза і Белкаапінсаюза ў гарадах БССР (франко-арцель у капейках за літр або бутэльку).

| Назва гарадоў | Газіраваная вада. | | Сітро ў бутэльках. | | Хлебны квас у бочках. | | Клюкв. квас у бочках. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Аптов. цана за літр | Розн. цана за літр | Аптов. цана за літр | Розн. цана бут. (0,6) | Аптов. цана за літр | Розн. цана за літр | Апт. цана за літр | Розн. цана за літр |
| Менск | 12 | 16 | 46 | 35 | 24 | 32 | 46 | 60 |
| Гомель | 12 | 16 | 46 | 35 | 24 | 32 | 46 | 60 |
| Віцебск | 12 | 16 | 46 | 35 | 24 | 32 | 46 | 60 |
| Орша | 17 | 20 | 46 | 35 | 32 | 40 | 46 | 60 |
| Рэчыца | 17 | 20 | 50 | 40 | 32 | 40 | 50 | 60 |
| Магілёў | 12 | 16 | 46 | 35 | 24 | 32 | 50 | 60 |
| Полацк | 17 | 20 | 50 | 40 | 32 | 40 | 50 | 60 |
| Бабруйск | 12 | 16 | 46 | 35 | 32 | 40 | 50 | 60 |
| Барысаў | 20 | 24 | 50 | 40 | — | — | 50 | 60 |

Морс шпанка для ўсіх гарадоў—аптовая цана—73 кап. за літр, рознічная цана—55 кап. за бутэльку. (0,6).

Фруктовы квас для ўсіх гарадоў—аптовая цана 62 кап. за літр, рознічная—80 кап. за літр.

Сіроп штучны на эсенцыях для ўсіх гарадоў—аптовая цана—2 р. 32 к. за літр, рознічная—3 р. за літр.

Увага: а) пры водпуску газіраванай вады з сіропам устаноўлена норма для сіропа натуральнага на соках 15 грам порцыя на куфель (0,25).

Для сіропа штучнага на эсенцыях устаноўлена норма 20 грам порцыя на куфэль (0,25).

б) Цана пры водпуску газіраванай вады з сіропам натуральным павышаецца на 8 кап. куфель (0,25).

Цана пры водпуску газіраванай вады з сіропам штучным на эсенцыях павышаецца на 6 кап. куфель (0,25).

2. Устаноўленая рознічная цана распаўсюджваецца на ўсе гандлюючыя арганізацыі ў вышэйпералічаных 9 гарадах БССР, за выключэннем паказальных кафэ-рэстаранаў, па якім цэны ўстаноўлены загадам Наркамснаба № 211 ад 14 жніўня 1934 г. і чыгуначных буфетаў, па якіх цэны ўстаноўлены загадам Наркамунутгандля № 202 ад 7 чэрвеня 1935 г. і ўводзяцца з атрыманнем гэтай пастановы на мясцох.

3. Абавязаць Горунутгандлі і гандлюючыя арганізацыі ва ўсіх буфетах, кіосках і ларках па продажу прахладжальных напіткаў і вод, вывесіць на відным месцы прэйскурант рознічных цэн, устаноўленых гэтай пастановай і весці сістэматычны кантроль за захаваннем устаноўленых норм пры водпуску вады з сіропам.

4. Даручыць Белхарчпромсаюзу і Белкаапінсаюзу зацвердзіць адпускныя цэны для астатніх гарадоў і раёнаў БССР і прадставіць Наркамунутгандлю БССР

Нам. Наркома Унутранага Гандля БССР І. Верба

# Дадатак да пастановы № 284

## Загад па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

16 чэрвеня 1935 г. — **№ 210** — г. Менск.

У дадатак да пастановы Наркамунутгандля БССР № 284 ад 9 чэрвеня 1935 г. аб устанаўленні аптова-адпускных і рознічных цэн на безалкагольныя і прахладжальныя напіткі ЗАГАДВАЮ:

1. Распаўсюдзіць рознічныя цэны на прадукцыю безалкагольных напіткаў Белбродтрэста на ўзроўні цэн, устаноўленых на прадукцыю Белхарчпромсаюза і Белкаапінсаюза за выключэннем клюквенага кваса, цэны на які застаюцца ў размеры 68 кап. за літр.

2. Устанавіць рознічную цану на новы асартымент напітка „Экстра“ павышанай якасці—70 кап. за бутэльку (0,6), напітка „Крэм-Сода“—45 кап. за бутэльку (0,6).

Нам. Наркома Унутранага Гандля БССР І. Верба.

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

**Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР**

г. Минск, Советская ул. Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм — МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской конторе Госбанка № 160/10076.

## ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

Гвозди деревянные березовые сапожные—80 тонн—1970 р. тонна, франко склад продавца, расчет акцептом.

Седелки крестьянские стоячие—2000 штук—8 р. 50 к. штука, вожжи тесемочные—1500 штук—6 р. 58 к. штука, кисти филенчатые— 8000 штук, щетинные от № 10 до № 24—4,5 коп. номер, франко-склад производства. Расчет акцептом.

Отсевы сульфата—200 тонн—103 р. 50 к. тонна, франко-производства. Расчет акцептом.

Вожжи тесемочные с кожаными наконечниками—500 пар—7 р. 70 к. пара, франко-склад производства, расчет акцептом.

Деревянный столярный инструмент из древесины твердых пород без железа: рубанки двойные—10.000 штук—3 р. 10 к. штука, рубанки ординарные—20.000 штук—2 р. 80 к. штука, шерхебели—5000 штук 2 р. 54 к. штука. Цены франко-производство. Расчет акцептом.

Вата листовая—100 кип по 1000 листов в кипе—250 р. 23 к. кипа, франко-склад производства. Расчет акцептом.

Мыло жидкое минеральное черного цвета—15 тонн —700 руб. тонна. Расчет акцептом.

Мыло специальное техническое темного цвета штампованое кусковое—60 тыс. кусков по 200—220 грамм в куске—22,5 коп. кусок, франко-склад артели. Расчет акцептом или аккредитив.

Конторский клей жидкий—20.000 бутылок развесом по 0,5 литра—1 р. 62 к. за бутылку со включением всех наценок, франко-вагон продавца. Расчет акцептом.

Чернила фиолетовые и красные по 0,5 литров в бутылке—80 коп. за бутылку, франко-склад продавца. Расчет акцептом.

## СПРОС ТОВАРОВ

Нитки на катушках или бабинах любых цветов от № 40 до № 80 в любых количествах, пряжа всех номеров белая и крашеная, шелк искусственный (вискоза) любых номеров, солома кулевая, мятая, прессованная в неограниченном количестве, бутылки емкостью 0,3—0,6 литров, стекло жидкое, сода кальцинированная, воск пчелиный натуральный, целлулоид, картон разный, краски анилиновые нефасованные, железо сортовое разное, железо листовое, отходы сортового и листового железа, железо упаковочное, вилы навозные стальные 4-х зуб., канифоль, отходы от саломаса, парафин, клей столярн., бумага оберточная, пеньковые, льняные отходы, проволока разная, мерный и весовой лоскут х/б, резина для подошвы, чугунное литье.



Выданне Наркамунутгандлю БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Д. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 752. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 2893.